


Ліса не наракала на свой лёс –
Намесніцай у Льва рабіла,
У справах лапу так набіла,
Што можа кожнаму уцерці нос.
Невыпадкова
Лісу цаніў высока Лёва.
Гады міналі ў дружнай працы,
Ды рыжую заносіць пачало –
Яна усюды стала выхваляцца,
Нібы замены ёй няма і не было.
Такое Леў
Сцярпеў.
Але далей пайшла Ліса –
Хваліць і да нябёс узносіць Лёву
Па ўсіх лясах:
– Яго жыццё бярыце за аснову,
У працы Лёвачка згарае,
Яго нам трэба берагчы,
Даваць найлепшыя харчы...
Дайшла да Лёвы чутка тая,
Сваю намесніцу паклікаў Леў
І зарычаў:
– На стол заяву – тэрмінова
І вымятайся з нашай установы!

---

Лягчэй бы нам жылося,
Каб у жыцці так павялося.

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*






Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.




Гісторыя не мяняецца. Мяняецца час.

Дурное пытанне не патрабуе разумнага адказу.

Калі баліць зуб, неабходна тэрмінова ісці да ўрача: альбо здарыцца флюс, або зуб перастане балець.

Спачатку чалавек вучыцца хадзіць, затым – ездзіць, а потым марыць, каб больш ляжаць.

Кожны гарызонт становіцца ўрэшце вертыкаллю.

Складанае – гэта тое, чаго ты яшчэ не рабіў.

Заўсёды варта памятаць: усё магло быць яшчэ горш, чым ёсць.

Яго талент быў закапаны вельмі глыбока. І лепш бы яго ніхто ніколі не адкопваў.

Калі б мы ведалі, што будзе заўтра, было б шмат учора.

Калі табе дрэнна, значыць, некаму ў гэты час добра. Калі табе добра, значыць, добра.

Немагчымае немагчыма.

У капіталізму і сацыялізму аднолькавы канец.

Нават калі ты сем разоў адмераў, рэж з запасам.

**Дунька ШЫП,**
*г. Мінск.*

*Чалавеку трэба два гады, каб навучыцца размаўляць, і пяцьдзясят, каб навучыцца маўчаць.*

Эрнэст Хемінгуэй (амерыканскі пісьменнік)

# ІГОЛКА-ТЭРАПІЯ

## НЕЗАКОННАЕ АМАЛАДЖЭННЕ

***Віцебскі раён.*** Любілі супрацоўнікі адной брэсцкай фірмы казкі. Асабліва\u0439 папулярнасцю ў іх карыстаўся аповед пра маладзільныя яблыкі. Толькі шкада, што пасля беларускіх фруктаў нічога дзіўнага з арганізмам не рабілася. Мабыць, з-за гэтага фірмачы і прыйшлі да высновы: «Калі казка руская народная, то і яблыкі становяцца маладзільнымі толькі ў Расіі».

Загрузіўшы ў грузавую машыну амаль 19 тон яблыкаў агульным коштам больш за 83 мільёны рублёў, супрацоўнікі фірмы направілі груз у краіну-суседку. Толькі зусім забыліся пра фітасанітарны сертыфікат. З-за гэтага груз і быў затрыманы, а затым канфіскаваны супрацоўнікамі віцебскай міліцыі.

За незаконную цягу да амаладжэння брэсцкай фірме давядзецца выплаціць тры мільёны рублёў штрафу.




## МАБІЛЬНЫЯ «САКРЭЦІКІ»

***Гродзенская вобласць.*** А вы ў дзяцінстве гулялі ў «сакрэцікі»? Калі прыгожую, часта бліскучую рэч хавалі ў нейкім патаемным месцы, пра якое амаль ніхто не ведаў. Гэта быў ваш асабісты скарб, ён прыўносіў у жыццё пэўную таямнічасць. Галоўнае – потым не забыць, куды і што было схавана.

У такую гульню дагэтуль не кінуў гуляць жыхар горада Гродна. У сваёй машыне ён схаваў 200 мабільных тэлефонаў маркі Iphohe-4 і спрабаваў незаконна ўвезці іх у Беларусь. «Сакрэцікі» коштам 1,5 мільярда рублёў фінансавыя міліцыянеры і пагранічнікі адшукалі і канфіскавалі. Зараз вядзецца следства, ад якога нічога не ўтоіш.



## ЗА ДВАІХ

***Клецкі раён***. «Ды яны ў мяне за дваіх працуюць!» – хваліўся ўсім кіраўнік станцыі тэхнічнага абслугоўвання пра сваіх рабочых. Яму верылі і зайздросцілі да той пары, пакуль на прадпрыемства не завіталі супрацоўнікі КДК. Асілкаў, якія працуюць дзень і ноч (на станцыі невялікі калектыў аказваў амаль дзясятак відаў паслуг – ад рамонту і тэхнічнага абслугоўвання машын да стрыжкі валасоў), кантралёры не сустрэлі. Затое сутыкнуліся са звычайнай хлуснёй. Замест заяўленых у справаздачах не больш за 15 чалавек у штаце працавала значна больш людзей, што дазволіла карыстацца спрошчанай сістэмай падаткаабкладання і «сэканоміць» 100 мільёнаў рублёў.

Схлусіў камерсант і ў Мінтрансе. Каб атрымаць ліцэнзію на ажыццяўленне міжнародных аўтаперавозак, ён прадаставіў у міністэрства фіктыўныя дадзеныя.

І адна, і другая хлусня «каштавалі» дырэктару па крымінальнай справе. Цяпер і яму давядзецца адказваць «за дваіх».

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

*Наркоз – таямнічы сродак, з дапамогай якога доктар пазбаўляецца ад парад хворага падчас аперацыі.*

Невядомы аўтар

**Яўген ХВАЛЕЙ**

## ВЕРША-СТРЭЛЫ

Калі кіруе цётка –
Заўсёды будзе плётка.
А пакіруе дзядзька –
З той плёткі будзе цацка.

* * *

Дзьмухавец гарыць:
– Я – сонца,
Увесь свет я сёння грэю...
А праз тыдзень пасівее.
Сонца свеціць жа бясконца.




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхась УЛАСЕНКА**

## ЦЕРУШЫНКІ

Крутога ведаў лёжня я –
За стол не трэба зваць.
З пустога у парожняе
Любіў пераліваць.

* * *

Ён ласкавы, ды ахвочы
Напусціць туману ў вочы.

* * *

А таму зямля не родзіць,
Што гультай за плугам ходзіць.

*г. Горкі.*

**Міхась СЛІВА**

# Рэцэпт для пахудзення

*гумарэска*



З самай раніцы наш аддзел гудзеў, як пчаліны рой у спякотны дзень.

— Ой, дзяўчаткі! — радасна расказвала эканаміст Інэса Данілаўна. — Такога рэцэпта вы яшчэ не ведаеце! Напісана, што за месяц можна лёгенька, не напружваючыся, скінуць больш за пяць кілаграмаў. Акрамя таго, умацоўваецца імунітэт, павышаюцца абарончыя здольнасці арганізма супраць многіх інфекцыйных захворванняў. Цуд!

Інэса Данілаўна хуценька зрабіла на ксераксе некалькі копій і пачала раздаваць усім жадаючым. Нам з Мікалаем Кірылавічам, маім калегам, таксама інжынерам, рэцэпта не засталося, але ён нам і не патрэбны. Астатнія ж супрацоўнікі нашага аддзела — дзяўчаты і замужнія жанчыны — хуценька прачыталі рэцэпт і дамовіліся худзець калектыўна.

Сталі заварваць і піць імбірны чай. Хтосьці прынёс з дому вялізны тэрмас, і сама Інэса Данілаўна рыхтуе лячэбны адвар. П'юць яго жанчыны амаль праз кожную гадзіну: чым часцей прымаеш, тым большы эфект. А ўсім жа хочацца, каб атрымалася як мага хутчэй. П'юць дружна, па ўказанай норме. Па добрай традыцыі кожны раз перад прыняццем лячэбнага эліксіру жанчыны па чарзе ходзяць у буфет. Як заўсёды, прыносяць што-небудзь новенькае і смачнае: то пірожнае, то булачкі з макам, то пончыкі, то піражкі з мясам або капустай, павідлам ці тварагом, а часта і бутэрброды з каўбасой. У нашым буфеце выбар вялікі, можна задаволіць любы густ!..

Трэба адзначыць, што рэцэпт для пахудзення спадабаўся ўсім. Цяпер гэты вопыт пераймаюць іншыя аддзелы і ўпраўленні нашай арганізацыі. Усе жанчыны з нецярпеннем чакаюць канца месяца, калі яны будуць узважвацца. Мы з Мікалаем Кірылавічам нават не сумняваемся, што вынікі такога напружанага пахудзення будуць ашаламляльныя...

*г. Рагачоў.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Мімаходзь

Нявеста ідзе ў ЗАГС пад белым вэлюмам, а жаніх — з белым сцягам.



Серыял па-бразільску: «Жанчына з водарам кавы». Серыял па-беларуску: «Жанчына з водарам бульбы».



У любоўным трохкутніку таксама ёсць свае сінусы, косінусы, тангенсы і катангенсы.



Жанчынам на заметку. Ведайце, што кожнае натуральнае футра — гэта сэканд-хэнд: дагэтуль яго насіла норка, чарнабурка альбо авечка.

**Заўважыў Юрый КУЧУРА,**
*г. Баранавічы.*

*Жанчына, якая ніколі не бачыла свайго мужа, калі той вудзіць рыбу, не ўяўляе, за якога цярплівага чалавека яна выйшла замуж.*

Эдгар Хау
(амерыканскі пісьменнік)




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

# Вясковая-талковая

Над вадою скрып ды скрып
Кладачка сасновая.
Гарадскі ка мне прыліп –
Знае, што вясковая.

А калі вясковая –
Значыць, і талковая.
Дый багата ласкаю,
Сальцам і каўбаскаю.

*Пастаўскі раён,*
*в. Камаі.*




Эх, як бывае сумна і крыўдна ад неапраўданых надзей! Я ж так спадзявалася пакаштаваць на зуб шкарпэткі. Ды ўсе мае чаканні аказаліся марнымі: шкарпэткі былі абсалютна звычайнымі, не харчовымі.

Але мужу я некалькі пар усё ж купіла, бо цана вельмі прывабная. Зараз носіць іх з вялікім задавальненнем, а есць тое, што я гатую. Кажа, што вельмі смачна...

**Шкарпэткі «каштавала»**
**Вольга ШАТУН,**
*г. Маладзечна.*




Нават не ведаю, што б зрабіў багатыр Алёша Паповіч, калі б даведаўся, што ў яго гонар назвалі туалетную паперу. Можа, усміхнуўся б, ці махнуў рукою, ці падаў у суд за тое, што яго імя без ведама выкарысталі як гандлёвую марку, ці ўзмахнуў сваёй дубінай перад вытворцамі паперы? Невядома, што б выбраў былінны герой, я ж сумна ўсміхнуўся: Бабы Ягі на іх няма!..

**За Алёшу Паповіча думаў**
**Міхась СТРЫЖ,**
*г. Мінск.*




*Адпачынак – вольны час, які даецца служачым, каб даць ім зразумець, што на службе могуць абысціся без іх і ў астатні час.*

Луі Фортэн (канадскі публіцыст)

***Чакаем новых мабільных прыколаў!***



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Галіна СУТУЛА**




Праўду людзі кажуць: рамонт рабіць — не шопінгам займацца. Тут жалезнага бобу трэба наесціся, каб перажыць гэты шматдзённы, расцягнуты, як капронавая панчоха, вэрхал ды знайсці на ўсё грошай. Але я, як жанчына без гаспадара, на вялікае і не замахвалася. Думала, што недзе падмажу, нешта падфарбую, шпалеры новыя паклею — і ўсё. Каб жа так...

Пачала фарбаваць рамы, а яны гнілыя наскрозь: зачэпіш — шкло вывальваецца. Давялося заказаць новыя вокны ПВХ. Хлопцы з фірмы праз тры дні заказ прывезлі, за паўдня — паставілі, узялі грошай як за месяц работы — і паехалі. Глянула на старыя абшарпаныя дзверы — душа забалела. Замяніла адным махам і іх. Злупіла старыя шпалеры: сцены ды перабойкі, як гарбаты вярблюд. Накупляла грунтоўкі, шпаклёўкі і доўга раўняла іх. А тут праводка іскрамі шыбанула, напомніла, што яе даўно пара мяняць...

Тую суму, якую я выдзеліла на рамонт, як карова языком злізала, а канца-краю рамонту не відаць. Улезла ў даўгі. Разабралася з праводкай, замяніла разеткі і выключальнікі на «еўра». Падраўняла сцены і столь. Паклеіла шпалеры. Люкс! Глянула на столь у кухні ды ў прыхожай — туды таксама «еўра» просіцца. Узяла крэдыт. Памяняла і столь.

Душа спявае, вочы радуюцца, дыхаецца па-еўрапейску лёгка. Але пакуль ў ванну ды ў туалет не зайду. Ступлю туды крок — дыханне заціхае. Сцены нібы крычаць, плітку керамічную патрабуюць. Ды і падлога рыпіць, аж у суседзяў чуваць. Узадрала старое ДСП, «падлячыла» балкі, паклала ламінат. Нават ногі на такім «подыуме» папрыгажэлі!

Зараз мая кватэра выглядае як сямнаццацігадовая дзяўчына. Але за яе маладосць я заплаціла столькі, што ў бліжэйшы час пра штодзённы «касметычны» рамонт уласнага твару думаць не даводзіцца. Ламаю галаву над тым, як даўгі вяртаць, камунальныя паслугі своечасова аплачваць, працэнты па крэдыце аддаваць...

Але, як людзі кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце памагло. Усе мае крэдыторы тэлефануюць мне кожны дзень, цікавяцца маім здароўем, планамі. Калі сустракаю работнікаў з банка, тыя кідаюцца мне насустрач, распытваюць, як справы на працы, ці няма ў мяне прагулаў ці заўваг. Словам, не даюць мне кукаваць у самоце. А паколькі сум, адзінота і апатыя наносяць непапраўную шкоду арганізму, таму мая вам парада: калі хочаце быць здаровымі, акружанымі клопатам і ўвагай, распачынайце ў сваёй кватэры «касметычны» рамонт за пазычаныя грошы! І запасайцеся жалезным бобам!..

*г. Глыбокае.*



*Сапраўдны лётчык-выпрабавальнік павінен свабодна лятаць на ўсім, што толькі можа лятаць, і амаль без намаганняў на тым, што наогул лятаць не можа.*

Сяргей Карзіншчыкаў (савецкі лётчык-выпрабавальнік)




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

*Мужчыны заўсёды хочуць быць першым каханнем жанчыны. Жанчыны мараць быць апошнім раманам мужчыны.*

Аскар Уайльд (англійскі пісьменнік)




## Грошы вернуты ў бюджэт

Намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкама В. Шлома прачытаў крытычны матэрыял «У «афсайдзе» («Вожык» № 2 за 2013 год) і паведаміў, што штатны расклад Віцебскага цэнтральнага спартыўнага комплексу аптымізаваны, пазабюджэтная дзейнасць ажыццяўляецца ў адпаведнасці з нормамі дзеючага заканадаўства, а пры ўкараненні новых напрамкаў такой дзейнасці папярэдне праводзіцца іх усебаковы аналіз і разлік эканамічнай эфектыўнасці ад іх увядзення. Акрамя таго, грашовыя сродкі ў суме 215, 1 мільёна рублёў вернуты ў бюджэт горада Віцебска шляхам памяншэння бюджэтных асігнаванняў на 2013 год па артыкуле «Расходы на камунальныя паслугі».

## Справа накіравана ў суд

Першы намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама М. Шых прачытаў сатырычны матэрыял «Агульная справа» («Вожык» № 3 за 2013 год) і праінфармаваў, што крымінальная справа па абвінавачванні старшыні жыллёва-будаўнічага спажывецкага кааператыва № 57 г. Слоніма А. Антоніка накіравана ў суд.

## Ажыццяўляюцца інвестыцыйныя праекты

Старшыня беларускага вытворча-гандлёвага канцэрна лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці «Беллеспаперпрам» А. Пераслаўцаў уважліва вывучыў фельетон «Пра што гавораць лесавікі...» («Вожык» № 3 за 2013 год) і патлумачыў, што асноўнымі прычынамі атрымання страт на ААТ «Светлагорскі ЦКК» і яго філіяле «Папяровая фабрыка «Чырвоная Зорка», ААТ «Папяровая фабрыка «Спартак» з'яўляюцца недастаткова высокі рост выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, значны рост яе сабекошту, буйная сума працэнтаў па крэдытах і іншае.

З мэтай выхаду на бясстратную работу на Светлагорскім ЦКК запланаваны да рэалізацыі шэраг арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў, некаторыя з якіх пачалі даваць станоўчыя вынікі. На «Чырвонай Зорцы» рэалізуецца інвестыцыйны праект па мадэрнізацыі абсталявання і тэхналагічнага працэсу, які дазволіць прадпрыемству выйсці на бясстратны рэжым работы. Увод аб'екта запланаваны на ліпень 2013 года. Для паглыблення перапрацоўкі паперы санітарна-гігіенічнага прызначэння ў адпаведныя вырабы і гафрыраванага кардону ў гафраскрыні на «Спартаку» плануецца завяршыць на працягу гэтага года два інвестыцыйныя праекты. У выніку выручка ад рэалізацыі прадукцыі павялічыцца ў больш чым два разы — да 47 мільёнаў долараў.

На прадпрыемстве «Мазырскі ДАК», ААТ «Віцебскдрэў» і «Барысаўдрэў» абсталяванне манціруецца, астатняе захоўваецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі вытворцы.



Фотаздымак Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Навіны з МУС: матай на вус...

# Хто гарэлку любіць — той сам сябе губіць

*Міні-фельетон*



*Народныя прыказкі і прымаўкі прайшлі выпрабаванне стагоддзямі. І што самае дзіўнае – прырода чалавечых учынкаў амаль не змянілася. Асабліва, калі яны здзяйсняюцца пад уплывам гарэлкі. І гэта лёгка пацвердзіць некалькімі прыкладамі...*

**«Нап'ецца, дык і з царом паб'ецца, а як праспіцца, дык і курыцы баіцца».**

Для жыхара вёскі Раманава Шчучынскага раёна такім «царом» стаў звычайны аўтобусны прыпынак. Хлопец, які нідзе не працуе і не цураецца выпіць, убачыў у гэтай пабудове віноўніцу ўсіх сваіх жыццёвых няшчасцяў і вырашыў яе пакараць сваімі кулакамі. У выніку ён зламаў на прыпынку лаўку, пашкодзіў сметніцу, паздзекаваўся са слупа, на якім вісеў расклад руху аўтобусаў...

А праспаўшыся, дэбашыр пачаў баяцца не курыцы, а крымінальнай справы па артыкуле «хуліганства».

**«У царкве не быў, а шклянога бога бачыў».**

Такога «шклянога бога» ўбачыў 27-гадовы жыхар Браслаўскага раёна ў адным вясковым магазіне. Некалькі разоў хадзіў на яго пaглядзець, палюбавацца. А потым злачынец (які, дарэчы, паспеў ужо шэсць разоў адседзець у турме за крадзяжы) вырашыў, што такі шкляны «ідал» павінен быць у яго дома, і палез ноччу па яго ў магазін. Між іншым прыхапіў да кучы яшчэ закуску, цыгарэты і ўсялякую дробязь.

Магчыма, усё гэта прызначалася для нейкага своеасаблівага дару ці абраду, прысвечанаму «шкляному богу». Але ў поўнай меры выканаць гэту задуму злодзею не атрымалася, бо ў хуткім часе яго затрымалі міліцыянеры.

Цяпер «шкляным богам» мужчына будзе любавацца ў турме хіба толькі на фотаздымку.

**«П'яніца за гарэлку чорту душу аддаў».**

Няйнакш як чорт падгаварыў 36-гадовага трактарыста адной з арганізацый горада Ваўкавыска прапіць грошы, якія яму выдаваліся на салярку. Нячысты быў побач з мужчынам цэлы тыдзень, і за гэты час той не толькі ні разу не з'явіўся на рабоце, дык яшчэ і прысвоіў сабе амаль пяць мільёнаў рублёў. Як толькі на гарызонце з'явілася міліцыя, чорт знік, а на трактарыста завялі крымінальную справу.

Вядома, душу мужчына нікому не аддаў, але некалькі гадоў свабоды можа дакладна страціць.

* * *

*Вось і атрымліваецца, што гарэлка ніколі да дабра не даводзіць, а народныя выслоўі могуць уберагчы чалавека і ад ліха, і ад крымінальнай адказнасці.*

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

*Пачынаеш курыць, каб даказаць, што ты мужчына. Потым спрабуеш кінуць курыць, каб даказаць, што ты мужчына.*

Жорж Сіменон
(французскі пісьменнік)

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**




Раней, хоць спіны ў полі гнулі,
І голад іх смактаў саміх,
Ды ўсё ж стараліся матулі
Карміць грудзьмі
Дзяцей сваіх.

Каля грудзей дзіця драмала,
Нібы ў калысцы, у цішы.
З іх малаком дзіця ўбірала
Цяпло ўсё матчынай душы.

Цяпер грудзьмі карміць не модна,
І нават шкодна – так карміць:
Прывабны бюст знясlавіць можна,
Мілосць ранейшую адбіць.

І ў Жаны не было жадання
Турботна корпацца знарок:
Сядзеў на штучным харчаванні
Яе крыкун,
Яе сынок.

Штодня сачыла за прычоскай,
На стан дзівілася ў тузе.
– Хай сын з бутэлькі п'е,
Праз соску,
Бо ён мне цыцкі адгрызе.

Бутэлька млела пад падушкай,
З ёй гадаваўся,
З ёй падрос.
Хоць не хацеў, нажыў мянушку
З калыскі ўжо – малакасос...

Прывык сынок смактаць з бутэлькі,
Спакою звычка не дае:
Бутэльку ўбачыць нават мелькам –
Бягом, аберуч за яе!

Не трэба соска пляшчы з «клёкам» –
Смактаць пакутна дзецюку:
Ён з рыльца глёкае з прыцмокам –
Не лезь, матуля, пад руку!

Свідруе позіркам калючым –
Няўтульна маці ад пагроз,
І не грудзям – душы балюча:
П'янтосам стаў малакасос.




Малюнак Алега ПАПОВА.

*Экзамены – адзіная магчымасць ведаць хоць нешта хоць некалькі дзён.*

Жорж Элгозі
(французскі пісьменнік)

# Каб і хацеў – не прыдумаеш!

«Знайшлі аўтамабіль заяўніка маркі «Рэно-Лагуна».

*(З пратакола.)*

«А настаўнікі, дзеці і іх бацькі папесцілі школу песнямі».

*(З допісу ў рэдакцыю.)*

«Прычына ўсяму гэтаму – банальнае п'янства, бо які ж табе дурань адмовіцца ад ста грамаў!»

*(З даклада.)*

«Паэт Альберт Зарэчны шукае музу. Пажадана, каб была без мужа».

*(З аб'явы.)*

«Трупава жонка сядзела побач».

*(З міліцэйскага пратакола.)*

«Нарыхтавалі па дваццаць пяць цэнтнераў умоўных кармавых адзінак на кожную ўмоўную галаву жывёлы, каб атрымаць пяцьсот тон умоўнага мяса і два мільярды ўмоўных рублёў прыбытку».

*(Са справаздачы.)*

«Указаць на непрынясцце неабходных мер па дапушчэнні стратнай работы».

*(З рэзалюцыі.)*

«Прыняць вычарпальныя меры да наяўнасці шырокага асартыменту».

*(З пастановы.)*

«У цябе такая прыгожая сукенка, што так і хочацца яе зняць!»

*(З размовы.)*

**Запісаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

# Вернісаж



Прыемная навіна: нядаўна ў Санкт-Пецярбургу ў серыі «Галерея мастеров карикатуры» выйшаў альбом нашага мастака-карыкатурыста Аркадзя Гурскага. Сярод аўтараў гэтай серыі – вядомыя карыкатурысты Юрый Касабукін, Вячаслаў Шылаў, Міхаіл Златкоўскі, Уладзімір Мачалаў і іншыя.

А. Гурскі лічыцца адным з самых арыгінальных беларускіх мастакоў-карыкатурыстаў. Яго работы заўсёды адметныя. Як прызнаўся сам мастак: «Стыль маіх малюнкаў з часам істотна змяніўся. Сюжэтныя лініі ўступілі месца мінімалістычным кампазіцыям, заснаваным на парадоксах і нечаканых паваротах. Больш увагі пачаў удзяляць выразнасці ў графіцы...»

Словам, віншуем Аркадзя Мікалаевіча з выхадам персанальнага альбома, зычым творчых поспехаў і прапануем вашай увазе некаторыя карыкатуры з гэтага выдання.





## Малюе Аркадзь ГУРСКІ







*Калі няма чаго есці на сняданак, то на абед можна схадзіць да сябра – ён падзеліцца, а на вячэру лепш схадзіць да ворага – ён усё аддасць.*

Стас Янкоўскі (расійскі інфарматык, гумарыст)

# Ні да вока, ні да бока

*Фотаіранеска*













Туманкая раніца ў звычайнай кватэры. У сям'і ўсе мітусяцца, збіраюцца хто на працу, хто ў школу... Але вось у дзвярах рыпіць ключ, і ў пакоях становіцца ціха і спакойна.

Наступае час, калі ўсе рэчы, што таксама жывуць у кватэры, застаюцца адны. У гэты час і пачынаецца ўсё самае цікавае...

— Здаецца, ніхто ўжо не вернецца, — пачуўся шэпт з шафы, якая стаяла ў пакойчыку бацькоў. — Можна адчыніць дзверы, а то няма больш сілы сядзець у цемры.

Дзверцы ціхенька адчыніліся — і ранішняе сонца асвяціла адзенне, якое было акуратна развешана і раскладзена ў шафе.

— І маўчаць надакучыла! Тым больш, што мне пісьмо прыйшло ад сяброўкі, якая на тыдні моды пабывала! — хутка пралапатала Спадніца гаспадыні. — Нават некалькі фотаздымкаў нашых гламурных суродзічаў даслала. Калі хочаце, то магу паказаць.

— Вядома, паказвай! Цікава паглядзець, як там выглядаюць за мяжой. Гэта ж знакамітасці з тыдня моды, а не нейкія там штаны суседкі Любы, — загаманілі Паліто, Касцюм, Сукенка і іншыя жыхары шафы.

— Добра, тады глядзіце, — сказала Спадніца, і ўсе па чарзе пачалі разглядваць фотаздымкі.

***(Гл. фота 3, 4, 6, 7, 11.)***

— Магчыма, я нічога не разумею ў высокай модзе, але гэта, мякка кажучы, нейкае вар'яцтва, — ціхенька прамовіў парадны Касцюм гаспадара.

— Вар'яцтва? Ха! Які ты ўражлівы! А паглядзі на гэта, — сказала Майка і разгарнула глянцавы часопіс, які ляжаў побач.

***(Гл. фота 1, 5, 8, 9.)***










— Кінь! Закрый! Няма сілы на гэта глядзець! — закрычаў Касцюм пасля некалькіх перагорнутых старонак.

— Што, пачынаеш лічыць сябе шэрай мышшу? — смеючыся, спыталася Паліто.

— Ведаеш, мой сябра, прыйдзе зноў восень — і я падгавару гаспадара, каб ён замест сваёй шапкі начапіў вось такія ж дошкі на галаву. Ну і гарманічна яны будуць з табой спалучацца! — агрызнуўся Касцюм.

— Не, не трэба мне такога шчасця! — уміг пасур'ёзнела Паліто.

— Калі на тое пайшло, дык я таксама магу нешта цікавае паказаць з жыцця маіх суродзічаў, — пачулася з прыадчыненай каробкі, у якой ляжалі Туфлі.

— Паспрабуй, — фанабэрыста заявіла прыгожая летняя Сукенка. — Але, здаецца, нічога дзіўнага я не ўбачу.

— Не гавары гоп, пакуль не пераскочыш, — адказалі Туфлі і паказалі свае фотаздымкі.

***(Гл. фота 2, 10, 12.)***

— Мабыць, я забяру свае словы назад, бо, крый божа, Касцюм зараз вырашыць падгаварыць і маю гаспадыньку выкарыстаць замест летняга капялюшыка вось такі, нават язык не паварочваецца назваць гэта «галаўны ўбор», — збянтэжана сказала Сукенка.

— Цішэй! Нехта адчыняе дзверы! Відаць, Сашка са школы вяртаецца. Зачыняем шафу, хаваем фотаздымкі. А то заменяць нас на «высокамодныя» ўборы, якія ні да вока, ні да бока, ды спішуць у бабульчын куфар, — паўшэптам прамовіў Касцюм, і дзверцы шафы зачыніліся...

**Размову падслухала**
**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**















# Адкрытая насцеж душа



*У «Вожык» вядомы сатырык і гумарыст Уладзімір ПРАВАСУД (1933 – 2011) прыйшоў у 1967-м. І амаль палова жыцця Уладзіміра Рыгоравіча, прыроджанага гумарыста і сатырыка, была звязана з гэтым выданнем. На працягу многіх гадоў не толькі друкаваўся ў «Вожыку», але і быў яго штатным супрацоўнікам. У літаратуру ён прыйшоў не толькі смяшыць, а і высмейваць вялікія і малыя заганы, якія мелі месца ў грамадстве.*

*Першы зборнік вершаў У. Правасуда «Бабрыная справа» пабачыў свет у 1973 годзе. А потым былі кнігі «Соль і перац» (1976), «Любоў без узаемнасці» (1979), «Цешча і аўтамабіль» (1984), «Прыкарытнікі» (1993) і інш. У 2008 годзе выйшаў трохтомны збор твораў: байкі, гумарыстычна-сатырычныя вершы, пароды, эпіграмы, пераклады, нарысы...*

*Біяграфія Уладзіміра Рыгоравіча багатая на падзеі, аднак ён не любіў, каб яго асобе ўдзялялася шмат увагі. Магчыма, само прозвішча паклікала паэта на сатырычную дзялянку. У. Правасуд не меў псеўданіма. Калі той-сёй цікавіўся: «Чаму?», ён з гумаркам адказваў: «Навошта? Такое цудоўнае прозвішча... У маёй роднай вёсцы Подгаць, што на Гомельшчыне, шмат хто раіў, каб я суддзёй стаў ці пракурорам».*

*Многім урэзаўся ў памяць яго гучны, басавіты голас, сакавіты смех. Пачуеш бадзёрыя, шчырыя словы – і адчуваеш, як цяплее на сэрцы. І забываеш пра свае нягоды, усміхаешся... Неверагодна шчыры, добразычлівы быў чалавек – адкрытая насцеж душа.*

*Сёлета, у чэрвені, Уладзіміру Правасуду магло б споўніцца 80 гадоў...*

**Уладзімір ПРАВАСУД**

## БАБРЫНАЯ СПРАВА

Для ўтульнасці
і для парадку
Бабру ўцяпліць
Спатрэбілася хатку,
Бо дыхала асенняй
слотай неба.
Знайшоў і дрэва ён,
як трэба.
Але каб дрэва тое
спілаваць,
Дазвол патрэбна
ад Мядзведзя
Атрымаць
(Мядзведзь загадваў
лесанарыхтоўчым
трэстам).
– Так, так, –
Мядзведзь сказаў, –
урэшце,
Не супраць я,
Ды вось на месцы
Патрэбна дрэва тое
нам агледзець...
І па загадзе
Ўсё таго ж Мядзведзя
За справу Крот узяўся.
Дзён некалькі пад дрэвам
ён капаўся,
Усё агледзеў ён,
не прапусціў нічога,
Прыйшоў да заключэння
ён такога:
– Няхай Бабёр спілуе
дрэва тое,
Бо ўсё карэнне у яго сухое.
– Яно, магчыма, так, –
Мядзведзь зазначыў, –
Ды трэба ўсё ж пабачыць,
Які у дрэва ствол,
якая крона,
Каб нам ні ў чым
не прагадаць.
Ствол дрэва будзе
Дзяцел аглядаць,
А крону хай абследуе
Варона...

Пакуль камісія птушыная
пацела,
Дык дрэва тое спарахнела.

## ЛІСА І МОДА

Вядома, што Лісіцы
любяць моду.
А гэтая – звышмодніцай
была
(Такая ўдалася ўжо
ад роду).
Пражыць і дня Лісічка
не магла,
Каб дзе чаго не пераняць,
Каб на сябе чаго
не начапляць.
І днём, і ноччу модамі –
і толькі! –
Была занятая лісіная
галоўка.
«Фу, рыжыя! –
З пагардаю сястрычкам
Казала модніца-Лісічка. –
Ад суму з вамі гэткімі
памру тут...»
І вапнай выбеліла футра.
І да чаго пасля дайшла
дурніца! –
Надумала з хвастом,
нарэшце,
Разлучыцца:
Маўляў, хвастатыя цяпер
не ў модзе.
І нешта раз у карагодзе
Схапіла – раз! –
Адсекла хвост дашчэнту!
І стала моднаю на ўсе
На сто працэнтаў.
За што і паплацілася
Аднойчы:
Сабакам неяк трапіла
на вочы.
І тыя след ўзялі
Ды забрахалі,
З хвілінай кожнаю
Больш страху наганяюць,
Вось-вось, здаецца,
даганяюць.
Каб хвост –
Ліса б управа ім вільнула,
Сама ж – налева
павярнула –
І ўспамінай, як звалі.
А так сабакі модніцу дагналі...
Калі разважыць аб усім
цвяроза,
Дык трэба мець і ў модзе
розум.

## Эпітафіі

### Падхаліму

На рознай працы
ў розныя гады
Ён гнуў перад начальствам
сваю спіну.
І толькі распластаўся ён тады,
Калі яго паклалі ў дамавіну.

### П'яніцы

Нябожчык быў
і сапраўды мацак –
Больш літра асушаў за... так.
Яму б, нябогу,
жыць яшчэ ды жыць,
А ён, як бачыце,
даўно ўжо тут ляжыць.

*«Бабрыная справа», Мн., 1973 г.*

Сяброўскі шарж
*Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, 2003 г.*



Асцярожна Прахіндзеі!
«Разявакі»
Нічога сабе ў яе машына!
Людзі зарабляюць грошы, не тое што мы, блін!
Хлопцы, падкажыце, дзе я магу прыпудрыць нос?
Табе што, каза, прыбіральня патрэбна?
Фу, грубіян! Але… і туалет таксама падыдзе.
Вунь там, у казіно. За паваротам.
Прыгледзьце за тачкай, а я хутка буду.
Хлоп!
Крутая дзеўка!
Ага! Хтосьці з ёй намардуецца.
Бач, вяртаецца. Прынцэса.
Ах!
Панаставілі тут на дарозе, не прайсці!
Што, згубіла нешта?
Ды вось, спатыкнулася і пярсцёнак з брулікам згубіла.



Я вельмі спяшаюся. Вось мая візітка, знайдзіце прапажу. Заплачу тысячу баксаў.
Толькі так!
Пайшлі, пашукаем, дзе там наша тысяча баксаў завалялася, гы!
Др-р-р-р!
Вось нам шанцуе!
Эй, бамжара, ты што там рыешся?
Не твая справа!
Вось дык знаходка! Пярсцёнак нейкі прыгожы. Відаць, даражэзны!
!!!!
!!!!
Эй! Гэта я згубіў!
А я знайшоў. Ён мой.
Я дам табе сто баксаў!
Не-е! Ма-ала. Такі пярсцёнак, па-мойму, вельмі дарагі.
Ну, не вельмі ён і шмат каштуе, але мне дарагі як памяць ад каханай жоначкі. Я тут усё абшукаў.
Што з табой рабіць?! Ну, за трыста аддам.
Ура! Семсот навару.
Колькі гэтыя прыдуркі далі за тую шклянук падробку?
Трыста!
Вось разявакі!
Усё!

**Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ**




Я пакрыўдзіў жонку. Сямейныя сваркі звычайна праходзяць без сведак, і папракнуць крыўдзіцеля няма каму. Канечне, лепшы суддзя – уласнае сумленне, але гэта толькі для тых, у каго яно ёсць. Вось у мяне, здаецца, сумленне пакуль што ёсць, бо пасля такіх правіннасцяў я суджу сябе вельмі строга.

Расштурхоўваю тых, хто дрэмле дзесьці ў куточку майго ўсведамлення: Суддзю, Абвінаваўцу, Ката і, каб захаваць фармальнасці, Абаронцу.

– Ну што, пачнём, – гаворыць Суддзя. – Дык вось, слухаецца справа па абвінавачванні Сяляўкі Піліпа Піліпавіча ў непаважлівых, непачцівых адносінах да ўласнай жонкі. Гэта паставіла пад пагрозу цэласнасць сям'і і нанесла значную маральную шкоду ва ўсіх адносінах прыстойнай жанчыне. Слова даецца Абвінаваўцу.

Суддзя яўна прадузяты да мяне, а мне такі і патрэбны. У рэшце рэшт, неабходна спыніць усе віды насілля над жанчынаю ў сферы сямейна-бытавых адносін на стадыі зараджэння.

– Ці ёсць на свеце больш гаротная жанчына, чым жонка вось гэтага чалавека? – звяртаецца да залы Абвінаваўца. – Ці заслужыла яна тыя абразлівыя словы, што сказаў абвінавачваны? Уважліва паглядзіце на яго. Як мне знаёма такая парода мужчын! Наламаюць дроў, а потым б'юць сябе ў грудзі, каюцца: «Ах, дарагая, як я мог!» І гэтую адгаворку яны гатовы лічыць індульгенцыяй! Аднак гладыш, як кажуць, разбіты. Яго можна скleіць, але трэшчыны застануцца... І якім патрэбна быць крывадушным, каб рабіць выгляд, быццам нічога не здарылася!..

Вось перад намі сядзіць чэмпіён па біцці сябе ў грудзі. А ці шчыры ён у сваіх раскаяннях? Можа, ён склікаў нас проста для фармальнай ачысткі сумлення? Варта задумацца.

Як можна павысіць голас на жанчыну – вянец тварэння, а тым больш на родную жонку? Як можна раздвоіцца да такога стану, каб абразіць сваё другое «я»? І ці можам мы пасля ўсяго гэтага называць абвінавачванага цэльнай асобай?

*Хто ўмее – робіць, хто не ўмее – вучыць.*
Бернард Шоу (англійскі пісьменнік)

– Ён больш не будзе, – нясмела, зусім па-дзіцячы падае голас Абаронца.

– Зноў «ён больш не будзе»! – саркастычна ўсклікае Абвінаваўца.

– Гэта мы чуем не ўпершыню. Перад намі, можна сказаць, маральны рэцыдывіст! Карацей, я патрабую для яго самага суровага пакарання. Лічу, што яно пойдзе толькі на карысць абвінавачванаму.

– Нават вышэйшая мера? – не вытрымаўшы, ахідна пытаюся я.

– Нават вышэйшая мера! – непарушна пацвярджае Абвінаваўца.

– Так, але патрэбна ўлічыць тую акалічнасць, што ён прыйшоў з працы стомлены. Канец месяца, работы процьма, ды і кіраўніцтва штодня палохае дзясяткам кандыдатаў на яго месца, – стараецца заступіцца Абаронца.

– Падсудны! – халодным голасам звяртаецца Суддзя. – Калі справа ідзе да апраўдання, навошта вы нас запрасілі?



– Што вы, якія могуць быць апраўданні! – мармычу я, і Абаронца замаўкае да канца пасяджэння.

– Падсудны! – строга кажа Суддзя. – Вы прызнаяце сябе вінаватым?

– Так, – цяжка ўздыхаю я.

Суддзя зачытвае прысуд: папрасіць прабачэння ў жонкі і ў якасці пакарання вымыць падлогу ў кватэры, а таксама лесвічную пляцоўку і балкон. І штодня гатаваць ежу для ўсёй сям'і. Кантроль за выкананнем прысуду ўскладаецца на Ката.

Суддзя, Абвінаваўца і Абаронца пакідаюць залу.

Іду ў суседні пакой, гавару жонцы сваю пакаянную прамову і хутка вяртаюся, паколькі яна ўсё яшчэ не жадае са мной размаўляць.

Я тармашу Ката, які пасапвае.

– Наконт падлогі. Штосьці сёння няма асаблівага жадання... Можа, заўтра?

– Ну, давай заўтра, – пагаджаецца Кат.

– А можа, і паслязаўтра?

– Можна і паслязаўтра.

– Але я хачу сёння пачаць новае жыццё!

Кат маўчыць, ляніва пазяхаючы. Гэты мяккацелы заўсёды ўсё псуе. Колькі ён загубіў цудоўных і справядлівых прысудаў! Якім дасканалым чалавекам у адносінах да жонкі я мог бы стаць!..

*г. Маладзечна.*

# Парнаскія жарты






Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## Пародыі

### Віктар КУНЦЭВІЧ

#### НЕЗАМОЛЕНЫ ГРЭХ

*На сэрцы неспакойна –*
*Жанчына йдзе ў красе*
*І грудак дзве іконы*
*Пад блузаю нясе...*
*Васіль МАКАРЭВІЧ*

На сэрцы неспакойна
За брата па пяру,
Бо грудзі – не іконы –
Яго ў палон бяруць.
Стаіць, глядзіць прадметна
І думка узнялася:
«А што, калі б кабета
Тут голаю прайшлася...»
І ліст злятае з клёна,
Пад небам звон звініць...
Васіль, шукай ікону,
Каб грэх свой замаліць!

*г. Магілёў.*

### Мікола КУТАС

#### БЯССОННЕ

*Цяжка дыхаць – накурыўся,*
*Не магу заснуць ніяк.*
*Парассыпаны па вёсцы*
*Брэх дакучлівых сабак.*
*Я гляджу ў пустое неба*
*І вачамі цемру п'ю...*
*Віктар ШНІП*

Кураць многія паэты,
Віктар Шніп – не выключэнне.
Цэдзіць дым да ачмурэння,
Дасягнуць каб творчай мэты.

Мабыць, хоча, каб бяссонне
Авалодала істотай,
Каб паспець пачуць сягоння
Брэх сабакі каля плоту,

Каб паспець напіцца цемры
І не шклянкай, а вачамі.
Да паэта ноччу тэмы
Бы паненкі, лезуць самі.

Як па-шніпаўску натхніцца?
Трэба ўзяць і... накурыцца.

*Вілейскі раён, в. Ілья.*

*Працяг на стар. 16.*

Працяг. Пачатак на стар. 15.

## Яўген ХВАЛЕЙ

### ШТО Я МАГУ

*Каму аддаць, як поўню, поўнач?*
*Гадзіннік б’е, а пеўні*
*Прамоўчаць, пэўна.*
*Іду я ім на помач.*
*А вецер прэ.*
*З гульбы мо рвецца?*
*Ну й ку-ка-рэк-нуў бы, здаецца...*
*Сяргей ПАНІЗНІК*

Што я магу?
Узяць у рукі поўню,
Аддаць суседу: ён шчэ не храпе.
А ўжо гадзіннік б’е за поўнач –
На седале спаць пеўню не дае.



Ну як жа так?
Іду яму на помач:
Спі, братка Пеця...
Гіру спрытна рву –
І ходзікі спыняюцца апоўначы,
Аж сам я ледзь ад шчасця не раву.
А тут шчэ вецер прэ,
З гулянкі рвецца,
Як п’яны, заківаўся у бакі.
Дык дзе яму, бядотнаму, падзецца?
Ці зноў ляці у Мёры нацянькі?
Ён быў жа там на розлюб’і, напэўна...
Не, братка вецер,
Лепш ты тут засні.
І я кладу упоруч яго з пеўнем,
А выспяцца –
Я ку-ка-рэк-ну ім...

*Ніхто так не мае патрэбы ў адпачынку, як чалавек, які толькі што вярнуўся з адпачынку.*

Элберт Хабард
(амерыканскі пісьменнік)

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### БУДЗЬЦЕ МАЁЮ ПЛЯЖНІЦАЙ!

*Ці настаўніца, ці мантажніца –*
*На спусцелым няўтульным пляжы*
*Загарае адзіная пляжніца,*
*Покуль прыцем нячутна ляжа.*

*Падступае вада да берага*
*І на міг замірае быццам.*
*І навокал ніводнага смелага,*
*Каб да пляжніцы хваляй прыбіцца.*
*Мікола ШАБОВІЧ*

І чаго я пайшоў тады,
У той вечар на бераг Нарочча –
Не успомню. Але ля вады
Я убачыў яе. Напрарочыў
Нібы тую сустрэчу хто,
Бо затахкала сэрца сініцай:
Да адзінае пляжніцы той
Захацелася хваляй прыбіцца.
«Вы настаўніца ці мантажніца? –
Я спытаў у чаканні пяшчоты. –
Будзьце толькі маёю пляжніцай,
Уратую ад адзіноты...»
Раптам бачу я: з-за хмызняку
Выйшаў хлопец – сапраўдны мачо...
І дагэтуль баліць у баку,
Калі ўспомніцца тая няўдача...



## Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

# Ж А Р Т Ы

### Ах, Ірына!

Папракаеш? Ёсць прычына:
Сапраўды, я не каўбой.
Ты ж такая – ах, Ірына! –
Залюбуешся табой.

Сэрцам чуецца жанчына,
Не магу начамі спаць.
Ох, Ірына! Ах, Ірына!
Дай цябе расцалаваць.



### Далікатнасць

Я абдыму тваё калена
(Даруй фантазіі мае).
Спытаю, як жывеш, Алена?
Ці ўсё, што хочаш, Бог дае?

А ты гарэзна пазіраеш.
Іду ў вачах тваіх на дно,
Як моўчкі позіркам параіш:
Абняў бы два. Чаму адно?



Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.

*Жанчыны заўсёды шкадуюць нас за раны, якія яны ж і нанеслі.*

Жан Ануй
(французскі драматург, сцэнарыст)

# Вясёлая пошта

## БАЦЬКАВА МАРА

Думаў я, як ажанюся,
Сэрцу радасць прынясе
Мая любая Маруся,
Ды не так пайшло ў мяне.

Дзень пры дні ўсё марыў я,
Што папоўніцца сям'я
І што з'явіцца на свет
Мой сыночак, мой атлет.

Вось прыйшоў жаданы час
І пытаюць: хто у вас?
Што казаць: сынка няма,
Нарадзілася дачка!

Дзе нашчадак, дзе сынок?
У чаканні цэлы год...
Зноў пытаюцца суседзі:
Хто ж да вас у хату едзе?

Відаць, бацька вельмі рад,
У сястрычкі будзе брат?
Што казаць? Навыварат:
Жонка дорыць мне двайнят!

Тры цяпер у нас дачушкі,
Прыгажуні, весялушкі.
Нарадзіла мне Маруся
Клаву, Галю і Танюшу.

Хоць гады ідуць, сябры,
Бацька ў хаце не стары.
І ўсё мару,
мару я,
Што з сынком будзе сям'я!

**Эра СТАВЕР,**
*г. Салігорск.*

# Кожны пра... сваё

Настала ноч. У хаце — ціш.
А за акном скавыча вецер.
Ці то грызе шпалеры мыш,
Ці то скрабецца ў шыбу вецце.

Блакітны месяц — тут як тут,
Цікуе з-за фіранкі ў хату,
Сваім ліхтарыкам у кут
На ложак свеціць ён заўзята.

А там — нібыта галубкі,
Буркуюць ціха дзед і баба.
«Раней ты, Ясь, быў не такі,
Хоць і гарэлку піў няслаба...»

Дзед не згадзіўся, даў адказ:
«Ну што ты, любая Яніна!
Не выпадае раз на раз,
І ты таксама не дзяўчына...»

Аж твар у бабы запалаў,
Дыханне ёй перахапіла:
«Ты паглядзі, як ён зламаў!
Хіба я з гэтага пакпіла?

Пра тое я, што спрыт прапаў,
Але ў зусім другім напрамку —
Не, каб граду перакапаў
Або ў дзвярах паправіў клямку.

Падлога спрэс скрыпіць, рыпіць,
Усё наўкол чакае Яся...»
А дзед прыціх: нібыта спіць,
Яніна моцна разышлася.

Прыціхла й баба: сон напаў.
Паплыў і месяц па-над вёскай...
А ўжо назаўтра ваяваў
Дзед са старой, скрыпучай дошкай.

Відаць, размовы па начах
Усё ж вынік маюць адмысловы:
Глядзіш, і проста на вачах
Ваш дзед — як малады, здаровы!

**Рэгіна РЭЎТОВІЧ,**
*г. Дзяржынск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

*Калі б у нас не было недахопаў, нам было б не так прыемна заўважаць іх у блізкіх.*

Франсуа дэ Ларошфуко (французскі пісьменнік)

# Дыялогі

— Я не вагаўся і хвіліны,
Піць і курыць і жонку кінуў.
— Прычым тут жонка твая, Насця?
— Не для яе такое шчасце!

* * *

— Чаму, Марыля, твой Сымон
Худы, бы кій сляпога?
— Бо, апроч вуды, болей ён
Не прызнае нічога.
Сядзіць на рэчцы дзень увесь —
Здабытчык ён, так мовіць,
І толькі тое сам і есць,
Што вудаю наловіць.

* * *

— Чаго смуткуеш ты, Адам?
Няўжо табе рабра шкада?
— Рабро, мой Божа, я аддам,
А з Евай будзе мне бяда...

* * *

— Ты гаворыш, дарагая,
Нібы ідыётка тая.
— Ну, а як жа ты хацеў?
Так кажу, каб зразумеў!..

**Міхась МАЗУРЭНКА,**
*г. Мінск.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




## Не старая, а даўняя

– Я не такая старая, як даўняя, – гаворыць Сцепаніда. – Бо тое, што было даўно, памятаю лепш, чым тое, што было ўчора...

## І так чыстая!

Маці кажа дачцэ:

– Таня, пачысці рыбу, юшку зварым.

– Навошта яе чысціць? Яна ж з вады, і так чыстая!..

## Такі муж

Жонка будзіць мужа:

– Іван, уставай! Ужо даўно пеўні спяваюць.

– Калі ім так весела, дык няхай спяваюць, а я яшчэ пасплю, – сказаў муж і павярнуўся на другі бок.

## Яго праўда

– А мае вы дзеткі дарагія, як я вас аднолькава люблю! – усклікнула Сцепаніда, пазіраючы на дачку і зяця.

– І ўсё-такі, мама, вы любіце камусьці больш, – уздыхнуў зяць.

## Не пагадзіўся

Па радыё паведамляюць:

– У наступныя двое сутак чакаецца халоднае, няўстойлівае надвор'е.

– Можа, хто і чакае яго, а я дык хачу ўстойлівага цяпла, – заўважыў дзед Андрэй і палез на печ.

**Пачуў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

## Рэчы выхоўваюць

На бацькоўскім сходзе настаўніца прачытала лекцыю на тэму «Выхаванне школьнікаў», адзначыўшы, што дзяцей выхоўваюць нават рэчы ў пакоі. Вярнуўшыся дахаты, бацька хуценька павесіў папругу на самым бачным месцы.

## Не размаўляй!

Выпраўляючы сына ў школу, маці папярэджвае яго:

– Сядзі на ўроках ціха, не размаўляй!

Вечарам яна пытаецца ў сына, як той сябе паводзіў у класе.

– Сядзеў ціха, не размаўляў, хоць настаўніца на кожным уроку назаляла нейкімі пытаннямі, – пахваліўся гультаяваты хлапчук.

## Зразумеў…

Жонка ў каторы раз расказвае мужу пра шкоду курэння:

– Ад гэтай атруты як нежывыя падаюць камары і мухі. У пакоях, дзе кураць, засыхаюць вазоны. Табачны дым згубна ўплывае на ўсё жывое. Вялікая доза нікаціну можа загубіць нават каня! Цяпер ты зразумеў, што трэба рабіць?

– Зразумеў! – згодна кіўнуў муж галавой. – Трэба курыць, каб не кусалі камары і мухі, а таксама каб знішчыць бактэрыі, якіх вельмі шмат у нашым арганізме. А вось конюхам варта забараніць курыць, бо коней шкада, іх і так меншае з кожным годам...

**Даслаў Пятро БАБРУК,**
*Пружанскі раён,*
*в. Шубічы.*

*Калі кошка з сабакам сябруюць, то яны сябруюць супраць кухара.*

Стэфан Цвэйг
(аўстрыйскі пісьменнік)






# Усмешка «Купалінкі»

**Працяг. Пачатак у № 5.**

## Свіння і бульба

*Байка*



Жыла-была ў сяле Свіння,
Ды не такая, як яе радня:
Усе, як павялося ў іх спрадвеку,
Любілі бульбу,
Гэта ж — цаца:
«Я не сцярплю такога здзеку,
Не буду бульбай харчавацца,
Бо чорная, і ўся ў пяску заўсёды», —
І не давала на «меню» такое згоды.
«Лепш, — кажа, — з'ем цыбулі,
Той жоўценькай ды кругленькай
красулі».
І на абед пабегла ў агарод,
А потым як заверашчыць праз плот:
«Ой, братцы, вы мяне ратуйце!
І бульбы, бульбы не шкадуйце!»

Мараль?
Такое і ў жыцці здараецца,
Калі усё на выгляд выбіраецца.

**Усевалад ГРЫНЧЫК,**
*Сенніцкая СШ імя Янкі Купалы.*



## Пакупаўся...

Пайшоў я пакупацца,
З сябрамі выбраў час.
Залез на дамбу, скокнуў —
І дно адчуў ураз.
На бераг неяк выйшаў,
Кульгаў, цягнуў нагу.
Чаму скакаў я першы?
Успомніць не магу...

Вярнуўся хутка з вёскі —
І злёг я, захварэў.
Як лета праляцела —
Заўважыць не паспеў...

**Аляксей БОЛВАХ,**
*Навасельская СШ.*

## Папугай



Мой любімы папугай
Будзіць ранкам: «Уставай!
Па тваім жа распарадку
Быць павінна ўжо зарадка».
У мяне ж адказ адзін:
— Дай паспаць
Хоць пяць хвілін!
Адмахнуся ад зарадкі —
Памяняю ўсе парадкі.

**Саша ПАНФІЛАВА,**
*Чурылавіцкая СШ.*

## Музыкі



Я іграў на балалайцы,
Седзячы на лаўцы,
А Сцяпан — на дудцы,
Седзячы на будцы.



Грае-свішча дудка,
Гукі льюцца хутка,
А сяброўка Варка
Скача вельмі шпарка.

Прысканўў тут Янка,
А за Янкам — Ганька,
А за Ганькай — Мілка,
Юлька і Данілка.
Кінуліся ў скокі —
Пыл зацьміў аблокі!

Сонца падзівілася,
Ды за гай скацілася.
А чые там крыкі:
«Марш дамоў, музыкі!»



**Аляксей МАСЮК,**
*Каралёвастанская БШ.*

## Кошка і верабей



У спякотны летні дзень
Ціха кошка села ў цень:
На галінцы вераб'я
Запрыкмеціла здаля.
— Верабейка, верабей,
Да мяне злятай хутчэй.
Буду я з табой гуляць,
Нават песенькі спяваць.
Дык давай жа на зямлю,
Я ад стомы ўжо драмлю.
Табе ж можна паскакаць
І зярнятак пазбіраць.
— Кошка, кошка, тут у вас
Чуў я казкі ўжо не раз.
Стрэлены я верабей,
Многа выцерпеў завей.
Хто мне многа абяцаў,
Хто мне шмат чаго жадаў, —
Не стаў сябрам у жыцці,
Кожны з іх у забыцці.
Табе хочацца гуляць,
Потым соладка паспаць?
Спі, гуляй, не супраць я,
Ды адна, без вераб'я!

**Вася ЗАХАРЭВІЧ,**
*в. Старое Сяло.*





Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## АКРАЗАГАДКІ

**М**нога нас, сясцёр, расце,
**А**ж чырвона на кусце.
**Л**екі я, ласунак я
**І** ў варэнні смачная.
**Н**а агні паклекачу –
**А**д прастуды палячу.

* * *

**Б**ор зялёны і густы,
**А** ў бары растуць кусты.
**Р**азгарні і пакрысе,
**А**глядай куточкі ўсе.
**В**унь схаваўся я ў траве
**І** кажу: «Пайду к табе –
**К**ошык маеш пры сабе?»

* * *

**В**ельмі хутка ўздоўж дарогі
**Е**ду я, працуюць ногі.
**Л**едзь сядла не дастаю,
**А** таму ўвесь час стаю.
**С**мела гойсаю наўкола,
**І** імчыць за колам кола.
**П**а дарозе, па траве...
**Е**здзіў бы, прагнаўшы стому,
**Д**ы паклікалі дадому.

# АНЕКДОЦІКІ




Бабуля пытаецца ва ўнучкі:
– Гэта ты з'ела ўвесь торт?
– Не, гэта не я! – адмоўна хістае галавой дзяўчынка.
– А яшчэ хочаш?
– Ну, вядома, хачу!

* * *

– Тата, а смятана карысная? – пытаецца сын.
– Карысная.
– А цыбуля?
– Таксама карысная. А што?
– Тады купі мне чыпсы са смятанай і цыбуляй.

* * *

– Так, сынок, распесцілі мы цябе, пара караць...
– Ха! ВЫ мяне распесцілі, а цяпер яшчэ і МЯНЕ караць?!

* * *

Адзін хлопчык на ўроку малявання сядзіць і нічога не малюе. Да яго падыходзіць настаўніца:
– Чаму ты не малюеш? Вось глядзі, у Машы – і кот, і каўбаса. А ў цябе – чысты ліст.
– Я ж не вінаваты, што мой кот з'еў каўбасу і ўцёк!

* * *

Сустракаюцца вожык і заяц. У вожыка лапка забінтаваная.
– Што з табой? – пытаецца заяц.
– Ды проста вырашыў трохі пачасацца.

* * *

Вовачка абувае гумовыя боты. Маці кажа:
– Вовачка, на вуліцы суха, гразі і лужын няма.
– А я знайду! – весела адказвае хлопчык.

* * *

Дзве курыцы пасварыліся. Адна з іх пагражае:
– Я на цябе ў суп падам!



Малюнак Алега ПАПОВА.

# Шаптуха

***Беларуская народная казка***

Была ў адным сяльцы старэнькая бабка. Сяльцо было маленькае, хат з дзесяць. І на самым канцы яго стаяла бабчына хатка. Была яна такая ж старэнькая, як і сама бабка. Знайшоўся якісьці добры чалавек, нарабіў у бабінай хатцы падпорак і абклаў яе прызбаю. Вось і стаіць яна, бо не ведае, у які бок паваліцца.Назбірае бабка трэсак, падпаліць у печы і грэецца перад агнём. Вядома, старому дык і ўлетку холадна. Калі ёсць што, то з'есць, няма – і так абыдзецца.

Ехаў аднаго разу праз тое сяльцо пан. Убачыў ён знаёмую бабку ды і здзівіўся.

– Хіба ж ты яшчэ жывая? – пытаецца.

– Жывая, паночку. Не ідзе смерць па мяне...

– А колькі ж табе гадоў?

– Ды я сваім гадам і ліку не ведаю...

– А як жа ты жывеш?

– Якое маё жыццё! Як так жыць, то лепей гніць: рабіць не магу, а дзеці і ўнукі даўно паўміралі. Адна я цяпер, як тая былінка ў полі. Няма каму і вады падаць. Ці не памог бы ты, паночку, чым-небудзь старому чалавеку?

Пан быў скупы. Не было яшчэ таго, каб ён каму дапамог у бядзе. Падумаў ён і кажа:

– Чаму ж ты, старая, не шэпчаш ці не варожыш?

– Не ўмею, паночак.

– Дык я цябе навучу.

– А навучы, голубе, навучы, каб і я не дарэмна свет займала.

Нахіліўся пан да бабчынага вуха ды кажа:

– Як паклічуць цябе да хворага, ты пахукай на яго тройчы і шапчы: «Сіголаў жыў, сіголаў не». Пашапчы гэтак трохі, дай яму выпіць вады з бутэлечкі – ён і ачуняе. А не ачуняе, то сіголаў яго бяры.

Падзякавала бабка пану і пачала шаптаць, як ён яе навучыў.

Пайшла чутка па ваколіцы, што аб'явілася такая бабка-шаптуха, якая вельмі ж добра лечыць і людзей, і жывёлу. Ды не толькі лечыць, але і ўсё ўгадвае.

Павалілі да тае бабкі адусюль. Нясуць і вязуць ёй усялякага дабра.

Жыве цяпер бабка і паміраць не хоча.

Тым часам паехаў пан на паляванне. Дзень быў халодны. Пан доўга ганяўся за зайцамі, крычаў на ўсё горла супраць ветру, вось і села яму скула ў горле.

Пан і да аднаго доктара, і да другога – ніхто не можа скулы тае вылечыць. А яна вось-вось задушыць яго.

Жонка кажа, што трэба паклікаць шаптуху, а пан і слухаць не хоча: ведае ж ён гэтую шаптуху!

Цярпеў, цярпеў ён, а, нарэшце, як не стала моцы, дык і згадзіўся, каб паклікалі бабку.

Прывезлі бабку, а пан ужо ледзь дыхае. Давай тут бабка хутчэй хукаць ды шаптаць: «Сіголаў жыў, сіголаў не...»

Пачуў пан, што бабка шэпча, чаму ён яе дзеля жарту навучыў, дык яго аж смех апанаваў. Бабка ж не зважае ні на што – шэпча: «Сіголаў жыў, сіголаў не...»

Слухаў, слухай пан, а потым як зарагоча – дык скула ў горле і лопнула...

Ачухаўся пан ды давай дзякаваць бабцы, што адратавала ад смерці.

– І гэта ты ўсё так лечыш, як я цябе навучыў? – пытаецца ён.

– Эге ж, панок, так і лячу.

– Ну, а як жа ты ўгадваеш?

– Ды як прыйдзецца...

– Угадай жа, што я цяпер думаю.

Паглядзела бабка пану ў вочы і кажа:

– Думаеш: заплаціць мне за шэпты ці не?

Пан засмяяўся:

– А няхай цябе, бабка, качкі стопчуць: як жа ты ўгадала?

– А гэта, пане, кожны ўгадае, хто цябе знае...

*«Мужык і жонка»*
*(Беларускія народныя казкі),*
*Мн., 1957 г.*



*Рэклама – гэта сродак прымусіць людзей мець патрэбу ў тым, пра што яны раней і не чулі.*

Марці Ларні
(фінскі пісьменнік-сатырык)

# Ка-ры-ка-ту-ры




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.





Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Жана ПАКЛЯКА.

*Самае непаўторнае, што стварылі рукі чалавека – гэта адбіткі пальцаў.*

Барыс Замяцін (рускі пісьменнік)